*__Дзесяць вякоў беларускай гісторыі.__ СВАБОДА пачынае друкаваць новую кнігу двух папулярных аўтараў — пісьменніка Уладзіміра Арлова і гісторыка Генадзя Сагановіча* *(стар. 5-6)*


# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 2 красавіка 1997 г. № 35 Кошт свабодны


## У Маскве – саміт, у Мінску – мітынг

**Мінскія ўлады далі дазвол прадстаўнікам БНФ і Сацыял-дэмакратычнай партыі правесці 2 красавіка мітынг на плошчы каля Опернага тэатра.**

Тым часам у горадзе з'явіліся ўлёткі невядомага паходжання, у якіх удзельнікаў акцыі пратэсту супраць чарговага этапу «расбелінтэграцыі» заклікаюць сабрацца ў 17 гадзін каля ўваходу ў парк Горкага і адтуль ісці да Опернага тэатра, дзе ў 18:00 каля помніка Максіму Багдановічу пачнецца мітынг.

**Я.С.**

## Віннікава зусім хворая

**Стан здароўя экс-старшыні Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай, якая з 14 студзеня ўтрымліваецца ў следчым ізалятары КДБ, моцна пагоршыўся.**

У сувязі з гэтым яе адвакаты звярнуліся да следчых з хадайніцтвам, у якім яны, у прыватнасці, просяць прызначыць судова-медычную экспертызу стану здароўя сваёй падабароннай, каб высветліць, ці можа яна далей знаходзіцца пад вартай. Па словах адваката Т.Віннікавай Гары Паганяйлы, за два з паловай месяцы зняволення ў яго падабароннай рэзка абвастрыліся хранічныя хваробы; цяпер яна знаходзіцца фактычна на пасцельным рэжыме. Апрача таго, улічваючы алергічныя рэакцыі яе арганізма на шэраг лекаў, лячэнне пад вартай становіцца праблематычным.

*БелаПАН*

## Генералу Мальцаву далі новую пасаду

**Былы міністр абароны Рэспублікі Беларусь Леанід Мальцаў прызначаны першым намеснікам начальніка Штаба па каардынацыі ваеннага супрацоўніцтва дзяржаваў СНД.**

На новую пасаду генерала Мальцава прызначылі ў Маскве, на паседжанні Савета кіраўнікоў дзяржаваў СНД.

Нагадаем: Леанід Мальцаў быў зняты з пасады міністра абароны Беларусі ўказам Лукашэнкі ў лістападзе 1996 г. Фармальнай падставай для адстаўкі стаў *«учынак, несумяшчальны з годнасцю афіцэра»*: Л.Мальцаў нібыта выйшаў да мікрафона на ўрачыстым паседжанні ў Мінскім медінстытуце ў нецвярозым стане. Аднак многія аналітыкі сцвярджалі тады, што Лукашэнка папросту пазбавіўся ад «ненадзейнага» сілавога міністра напярэдадні рэферэндуму.

*БелаПАН*

## У Вялікодную ноч засталіся без святла

**З-за моцнага снегападу і ветру ў мінулыя выходныя засталіся без святла 987 населеных пунктаў Мінскай вобласці.**

Усю нядзелю і панядзелак аварыйныя брыгады аднаўлялі пашкоджаныя лініі электраперадач. Як паведамілі СВАБОДЗЕ ў міністэрстве энергетыкі, энэргазабеспячэнне ўсіх населеных пунктаў было цалкам адноўленае.

**Я.С.**

## Лукашэнка падбірае ключы да кабінета ў Крамлі

Сёння ў Маскве будуць падпісаныя дакументы, якія абвесцяць аб ператварэнні «Сообщества Беларуси и России» ў Саюз. Хутчэй за ўсё будзе прадэкларавана стварэнне новай дзяржавы канфедэратыўнага тыпу, пасля чаго пачнецца яе ператварэнне ў звычайную федэрацыю.

Відавочна, што ў гэтым СБР Беларусь, як самастойная краіна, Расіі непатрэбная. Нідзе ў свеце яшчэ не было выпадку, каб адна дзяржава далучала да сябе другую толькі дзеля таго, каб карміць яе і пры гэтым не лічыць сваёй тэрыторыяй, якой можна кіраваць згодна са сваімі законамі і інтарэсамі.

Ясна, што на саюз з Беларуссю Расію штурхаюць чыста прагматычныя мэты. Па-першае, Беларусь для Расіі сапраўды акно ў Еўропу. Гэта транзітны калідор, праз які вывозілі і будуць вывозіць газ, нафту, каляровыя металы ды іншыя карысныя выкапні. Гэта трамплін для пашырэння эканамічнай экспансіі расійскага бізнэсу на Захад. Нарэшце, гэта буферная зона, вельмі зручная для размяшчэння тут свайго вайсковага шчыта, якім можна шантажаваць Захад. Акрамя таго, саюз з Беларуссю імітуе адраджэнне СССР, што для паловы ельцынскага электарату гэтак жа важна, як і для лукашэнкаўскага. Такім чынам, Барыс Ельцын, падпісваючы дамову аб саюзе, забівае адразу некалькі зайцоў — і ўсіх без адзінага стрэлу. Ён, па сутнасці, адным подпісам робіць тое, для чаго некалькі расійскіх манархаў запар распачыналі крывавыя кампаніі.

Але на шляху такога простага вырашэння складанай праблемы стаіць другі інтэгратар — Аляксандр Лукашэнка. Беларускі прэзідэнт плануе, што кіраваць саюзам будзе ён з дапамогай яшчэ васьмі чалавек: Ельцына, двух прэм'ераў, чатырох старшынь палат парламентаў Расіі і Беларусі, а таксама старшыні Выканаўчага камітэта. Мяркуецца, што ад імя саюза кіраўнік яго вышэйшага савета атрымае паўнамоцтвы заключаць нават міжнародныя пагадненні. А законы, прынятыя міжпарламенцкім сходам, будуць абавязковымі для ўсіх суб'ектаў саюза. Адзіная валюта, агульнае войска, межы — усё гэта павінна працаваць на карысць умацавання ўлады кіраўніка вышэйшага савета саюза. Такім чынам, Лукашэнка прапануе Ельцыну добраахвотна падзяліцца з ім кавалкам расійскага суверэнітэту, абяцаючы ўзамен, што такі ж кавалак перападзе расійскаму лідэру, калі ён, згодна з прынцыпам ратацыі, зойме крэсла кіраўніка вышэйшага савета СБР.

Узнікае пытанне: няўжо Барыс Ельцын не бачыць, што за гэтай блытанай і складанай структурай хаваецца пагроза асабіста для яго і для ўсёй кіраўнічай расійскай эліты? А калі бачыць, то што збіраецца супрацьпаставіць беларускаму інтэгратару, які так спадзяецца, што расійскаму прэзідэнту пры ягоным здароўі няма часу разбірацца ў хітрыках малодшага беларускага брата?

Малаверагодна, што Ельцын не бачыць пагрозы. Але ён яўна не спяшаецца публічна рэагаваць на прапановы Мінска. У той час, калі праект лукашэнкаўскага статуту праходзіў аналіз у Крамлі і Дзярждуме, яго ні разу публічна не пакрытыкаваў ніводны з набліжаных Ельцына. Больш-менш сур'ёзныя заўвагі выказаў толькі віцэ-спікер Думы Аляксандр Шохін, які слушна заўважыў, што саюз па прынцыпе «адна краіна — адзін голас» паміж дзяржавамі, з такімі рознымі эканамічнымі і палітычнымі патэнцыяламі, абсалютна нераўнапраўны.

*(Працяг на стар. 2)*

## Дэпутата Знаўца трымаюць за кратамі

**Трынаццатыя суткі знаходзіцца ў камеры мінскага спецпрыёмніка дэпутат ВС Павел Знавец.**

Ён быў арыштаваны 20 сакавіка падчас правядзення студэнцкай акцыі пратэсту і асуджаны на 5 сутак зняволення. Тое, што дэпутат парламента, якому закон гарантуе недатыкальнасць, сядзіць у турме — факт сам па сабе беспрэцэдэнтны. Але ў дачыненні да Знаўца, відаць, пастаўлена задача не толькі максімальна жорстка пакараць яго, а яшчэ і зламаць маральна. Паўла абвінавачваюць у арганізацыі ледзь ці не ўсіх акцыяў апазіцыі, нават тых, у якіх ён не прымаў удзелу. Пасля першых пяці сутак «адсідкі» Знаўца прама з камеры зноў даставілі ў суд, які пакараў яго чарговымі 5 суткамі арышту і штрафам у 13 мільёнаў рублёў, а 27 сакавіка суд працягнуў тэрмін яго зняволення яшчэ на 5 сутак.

Павел Знавец вядомы сваёй бескампраміснасцю і непрымірымасцю ў адносінах да кіруючага рэжыму і асабіста да прэзідэнта Лукашэнкі. Ягоныя калегі па сацыял-дэмакратычнай партыі не выключаюць, што падобнае абыходжанне ўладаў з дэпутатам з'яўляецца асабістай помстай Знаўцу з боку А.Лукашэнкі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Багданкевіча і Новікава таксама судзяць

*__Дэпутатаў Вярхоўнага Савета працягваюць судзіць «за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці 15 сакавіка» — у Дзень Канстытуцыі__*

Учора ў Савецкім райсудзе г.Мінска разглядалася справа «праваparушальніка» Станіслава Багданкевіча. На падставе сведчанняў міліцыянтаў лідэр Грамадзянскай партыі быў аштрафаваны на 2 млн. 600 тыс. рублёў.

А ў судзе Партызанскага раёна ў мінулы чацвер судзілі Васіля Новікава — першага намесніка старшыні ВС. Аднак ў пратаколах на Новікава, якія былі перададзеныя міліцыяй у суд, адвакат Гары Паганяйла выявіў фальсіфікацыю подпісаў міліцыянта-сведкі. Суддзя Нэлі Ройнік прыняла «геніяльнае» рашэнне: разгляд справы прыпыніць, а пратакол накіраваць у Партызанскі РАУС *«для устранения недостатков»*.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



# Лукашэнка падбірае ключы да кабінета ў Крамлі

(Пачатак на стар. 1)

У калідорах расійскай улады да апошняга часу шукалі новую абгортку для лукашэнкаўскіх прапановаў. Але, здаецца, так і не знайшлі. Пакуль вядома, што 2 красавіка ў Маскве пасля сустрэчы двух прэзідэнтаў пройдзе чарговая сесія міжпарламенцкага сходу (а не паседжанне абодвух парламентаў, на якім па плане беларускага кіраўніка дэпутаты павінны былі ратыфікаваць статут саюза). Замест лукашэнкаўскага праекта, як паведамляюць расійскія крыніцы, падрыхтаваны дакумент больш дэкларатыўнага характару, які да таго ж прадугледжвае расцягнуць працэс стварэння новага міждзяржаўнага фарміравання. Дарэчы, у гэтым дакуменце (згодна з інфармацыяй тых жа крыніцаў) большасць палажэнняў маюць вельмі шырокае тлумачэнне і па сутнасці мала чым адрозніваюцца ад лукашэнкаўскіх прапановаў. Ва ўсякім разе, схема кіраўнічай структуры саюза прадугледжвана амаль цалкам. Расійскія каментатары з гэтай прычыны выказваюць занепакоенасць: пры такім раскладзе як мінімум чатыры месяцы ў вышэйшым савеце гарантаваныя за Лукашэнкам, а калі на яго падтрымку паўстане хто з расійскіх прадстаўнікоў (што не выключана, улічваючы ўнутрыпалітычныя супярэчнасці), то беларускаму прэзідэнту свеціць і большасць. *«Навошта такі расклад, пры якім 10-мільённая Беларусь будзе кіраваць 150-мільённай Расіяй»* — задаюць пытанне расійскія палітыкі, апелюючы да Ельцына. Маўляў, пакуль не позна, асадзі назад, цар-бацюхна!

Але Ельцын не такі просты. Відавочна, што ён яўна правакуе на канфлікт з Лукашэнкам свае маладое і амбіцыйнае атачэнне. Чубайс і кампанія і дагэтуль не асабліва ладзілі з беларускім прэзідэнтам, а цяпер у іх ёсць падставы баяцца яго, як агня. Яны без падказкі разумеюць небяспеку, якую нясе асабіста ім беларускі інтэгратар, ствараючы новыя інстытуты ўлады, у якіх няма месца цяперашнім крамлёўскім чыноўнікам. Можна меркаваць, што яны пачнуць дзейнічаць больш жорстка, выкарыстоўваючы ў тым ліку і эканамічныя рычагі — кшталту чарговага прыпынення паставак нафты, газу ці хаця б затрымкі ў выдзяленні тэхнічнага крэдыту, які даўно паабяцаны Мінску. Безумоўна, гэта будуць часовыя меры, але і іх хопіць, каб пагоршыць сітуацыю ў Беларусі. Хто ад гэтага выйграе? Безумоўна, Барыс Ельцын. Скарыстаўшыся момантам, ён, як мінімум, адбяро ў беларускага прэзідэнта партфель кіраўніка вышэйшага савета (маўляў, ты са сваёй краінай спачатку разбярыся).

Ведаючы схільнасць расійскага прэзідэнта да дзеяння па прынцыпе «разделяй и властвуй», нельга зняць з рахунку і такое меркаванне: з'яўленне каметы Лукашэнкі на палітычным небасхіле Расіі выгадна Ельцыну таксама і таму, што ў чарговы раз дапаможа яму пасварыць розныя палітычныя групоўкі ў Крамлі і Думе. Групоўка вакол віцэ-прэм'ера В.Сярова, якая аб'ядноўвае апаратчыкаў старой загартоўкі, з'яўляецца прыхільніцай інтэграцыі ў лукашэнкаўскім варыянце. Менавіта пад кіраўніцтвам Сярова і быў распрацаваны праект дакумента, які збіраюцца пакласці на стол перамоваў Ельцына з Лукашэнкам. Калі гэта адбудзецца, то канфлікт паміж Сяровым і групай Чубайса прыме яшчэ больш жорсткія формы. Адтэрміноўка з прыняццем канчатковага рашэння па саюзе з Беларуссю можа пашырыць раскол і сярод прыхільнікаў Зюганава ў Думе. Апошнія заявы Шохіна правакуюць на разборкі ў фракцыі «Наш дом — Расія». У выніку ўсіх гэтых разборак Барыс Ельцын аказваецца ў ролі міравога суддзі і незадаўжна прыватызуе працэс расійска-беларускай інтэграцыі, канчаткова адхіляючы ўбок Лукашэнку. Потым, калі сітуацыя даспее, мінскаму дыктатару можна прад'явіць ультыматум: альбо аб'ядноўвайся на нашых умовах, без усякіх там суверэнітэтаў, альбо заставайся адзін на адзін са сваёй апазіцыяй і мёртвай эканомікай.

Канешне, такая гульня досыць рызыкоўная. У першую чаргу таму, што вядзецца яна з чалавекам, які сам набіў руку на правакаванні канфліктаў і вылучэнні ультыматумаў. Аднак Ельцын і не такіх абломваў. Варта ўзгадаць, як бліскуча правёў ён кампанію супраць Міхаіла Гарбачова, ад якога адабраў партфель прэзідэнта тым жа метадам, якім сёння збіраецца дзейнічаць Аляксандр Лукашэнка: спачатку стварыў новы цэнтр улады, завязаў на ім ніткі кіравання асноўнымі дзяржаўнымі інстытутамі, а потым аказаўся ў гэтым цэнтры, маючы ў руках усе паўнамоцтвы. Безумоўна, расійскі прэзідэнт не дазволіць маладшаму брату паўтарыць свой асабісты подзвіг 1991 года. Тады на бліскучую кампанію па атрыманні ўсёй улады ў Расіі Ельцыну хапіла чатырох месяцаў. Цяпер жа, у выпадку стварэння канфедэрацыі Беларусі і Расіі, крамлёўскаму лідэру дастаткова будзе некалькіх тыдняў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Высылка журналіста

*А.Ступнікаў вымушаны быў пакінуць Беларусь*

**Пазбавіўшы карэспандэнта тэлекампаніі НТВ журналісцкай акрэдытацыі, беларускія ўлады на гэтым не спыніліся. Аляксандру Ступнікаву было загадана да 1 красавіка пакінуць тэрыторыю Беларусі.**



У панядзелак, 31 сакавіка, А.Ступнікаў выехаў у Маскву. Каб развітацца з ім, у 20.00 на чыгуначным вакзале ў Мінску сабралася ўнушальная грамада (чалавек 150) журналістаў, палітыкаў, сяброў. Здаецца, для самага Ступнікава было нечаканым, што столькі вядомых людзей прыйшлі яго праводзіць. Два дзесяткі міліцыянтаў, якія знаходзіліся паблізу, не перашкаджалі цёпламу развітанню. Ад рэдакцыі газеты «Имя» Аляксандр атрымаў вымпел савецкіх часоў з надпісам «Лучшему по профессии» і міліцэйскую фуражку, знойдзеную, па словах журналістаў, на адной з дэманстрацыяў. Перад адыходам цягніка была адкаркавана традыцыйная бутэлька шампанскага, а потым журналісты падхапілі Ступнікава на рукі і некалькі разоў добра падкінулі яго ў паветра. *«Мы яшчэ сустрэнемся»*, — гаварылі яму. *«Я спадзяюся*, — сказаў Ступнікаў. — *Але гэта ўжо залежыць ад вас, сябры»*.

Жонка і чацвёра дзяцей Аляксандра засталіся ў Мінску. Ступнікаў мяркуе, што беларускія ўлады не будуць перашкаджаць яму наведваць сям'ю.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*P.S. Аказваецца, Аляксандр Ступнікаў з'яўляецца грамадзянінам не толькі Ізраіля, але і Расіі. Расійскае грамадзянства яму было прадастаўлена месяц таму (28 лютага 1997 г.), пра што сам журналіст нават не ведаў. Пра гэта было паведамлена ўчора на прэс-канферэнцыі ў Маскве.*

## Яшчэ адзін пікет у Маскве

**У мінулую нядзелю ў Маскве адбылося чарговае пікетаванне пасольства Рэспублікі Беларусь.**

Прадстаўнікі Расійскага фонду абароны галоснасці і журналісты пратэставалі супраць масавых рэпрэсій сённяшніх уладаў Беларусі ў дачыненні да сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасці, супраць высылкі карэспандэнта тэлекампаніі НТВ Аляксандра Ступнікава. Пікет разагнала міліцыя.

Рэч у тым, што арганізатары пікету не паспелі своечасова паінфармаваць гарадскія ўлады аб правядзенні акцыі (расійскае заканадаўства прадугледжвае менавіта паведамленне, а не атрыманне дазволу на пікет). У панядзелак адзін з акруговых судоў Масквы вынес арганізатарам пікету папярэджанне.

**М.Н.**



**ШТО ПІШУЦЬ**

# «Спыніць сталінізм у Беларусі»

*Рэдакцыйны артыкул пад такім загалоўкам быў апублікаваны 29 сакавіка ў New York Times*

«Народ напрасіў мяне: вярні дыктатуру, вярні сталінскія часы», — цытуе газета нядаўняе выказванне Лукашэнкі па тэлебачанні. *New York Times* нагадвае пра апошнія факты праследу беларускімі ўладамі лідэраў апазіцыі, журналістаў, замежных грамадзянаў і далей піша: «У сераду павінна адбыцца сустрэча Лукашэнкі з Барысам Ельцыным, магчыма, адзіным чалавекам, які можа яго спыніць. Настаў час, калі Ельцын павінен прымусіць Лукашэнку змяніць свой курс... Ельцын павінен аказваць большы ціск для забяспячэння свабоды ў Беларусі. Фарміраванне партнёрства са сталіністам ні ў яго інтарэсах, ні ў інтарэсах Расіі. Лукашэнка арыштаваў дзесяткі лідэраў апазіцыі. Цяпер ён кантралюе парламент, суды і сродкі масавай інфармацыі і рыхтуецца да таго, каб вырваць з коранем маладыя парасткі грамадзянскай супольнасці. Ельцын, які сам прайшоў праз усё гэта, павінен быць на баку тых, хто змагаецца з дыктатурай».

*The Washington Post:*

# Расія падтрымлівае дыктатарскі рэжым

Уплывовая амерыканская газета *The Washington Post* у рэдакцыйным артыкуле пад назвай «Беларусь і дэмакратыя» згадвае апошнія беларуска-амерыканскія інцыдэнты, звязаныя з адмовай ва ўездзе ў краіну выканаўчаму дырэктару Беларускага фонду Сораса Пітэру Бэрну, а таксама з высылкай амерыканскага дыпламата Сержа Аляксандрава.

«Усё гэта — справа рук прэзідэнта Лукашэнкі, былога дырэктара саўгаса, які выйграў прэзідэнцкія выбары ў 1994 годзе і з таго часу метадычна падаўляе дэмакратычныя інстытуты ў сваёй краіне, — упэўнена *The Washington Post*. — Ён увёў марыянетачны парламент і канстытуцыйны суд, неадназова арыштоўваў лідэраў апазіцыі і мірных дэманстрантаў, увёў жорсткі кантроль над газетамі і электроннымі СМІ».

«ДзяржДэпартамент ЗША вуснамі свайго прадстаўніка Нікаласа Бёрнса выказаў рашучы пратэст супраць дзеянняў беларускага рэжыму, — піша газета. — Гэта лагічная мера, але гэтага мала. Зараз заходнія краіны павінны пайсці далей. Як і Джордж Сорас, яны павінны спыніць усякую дапамогу рэжыму і знайсці спосабы і шляхі, каб падтрымаць незалежныя арганізацыі, якія яшчэ хоць неяк існуюць у Беларусі».

«Лукашэнка, — працягвае *The Washington Post*, — не зможа доўга існаваць без дапамогі з Расіі ў выглядзе таннага газу і іншай сыравіны. Прэзідэнт Клінтан павінен выказацца ясна і адназначна: той факт, што Расія падтрымлівае ўшчамленне свабоды ў Беларусі, выклікае глыбокую занепакоенасць Захаду. Падтрымка дыктатарскага рэжыму ў самым сэрцы Еўропы несумяшчальная з перспектывамі супрацоўніцтва паміж *NATO* і Расіяй, пра якое Клінтан і Ельцын заявілі ў Хельсінкі», — падкрэслівае *The Washington Post*.

*Frankfurter Rundschau:*

# Міжнародная ізаляцыя Беларусі выгадная Маскве

«Аўтакратычны рэжым Лукашэнкі ўсё больш паглыбляе міжнародную ізаляцыю Беларусі», — піша вядомая нямецкая газета *Frankfurter Rundschau*, згадваючы нядаўнія падзеі ў Мінску, у прыватнасці высылку амерыканскага дыпламата Сержа Аляксандрава. «У мінулым лістападзе пасля спрэчнага рэферэндуму ўступіла ў сілу новая канстытуцыя, якая надзяліла Лукашэнку неабмежаванай уладай. Захад падазрае, што вынікі рэферэндуму сфальсіфікаваныя, і не прызнае новай канстытуцыі. ДзяржДэпартамент ЗША рэзка асудзіў парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Еўрапейскі Саюз збіраецца пераглядзець сваю палітыку ў адносінах да Мінска пасля вельмі крытычнага даклада пра палітычную сітуацыю ў краіне, які падрыхтавала місія ЕС. Беларусь падтрымлівае кантакты яшчэ толькі з славянскімі суседзямі — Украінай і ў першую чаргу з Расіяй. Апазіцыя абвінавачвае Лукашэнку ў спробах стварыць славянскую імперыю. Першы крок зроблены ў красавіку мінулага года, калі была створаная супольнасць Расіі і Беларусі», — коратка акрэслівае сённяшнюю сітуацыю ўплывовая газета.

«Супраціўленне рэжыму Лукашэнкі расце, нягледзячы на пастаянныя рэпрэсіі, высокія штрафы і новы лукашэнкаўскі дэкрэт, які моцна абмяжоўвае канстытуцыйныя правы грамадзянаў, — інфармуе чытачоў FR. —На акцыі пратэсту рэгулярна выходзяць тысячы людзей».

«Заклікі Захаду да захавання дэмакратыі і свабоды прэсы пакуль не даходзяць да Лукашэнкі, — піша FR. — Расійскае кіраўніцтва замоўчвае ўнутрыпалітычныя непаладкі ў Беларусі. Чым глыбей Беларусь апынаецца ў міжнароднай ізаляцыі, тым лягчэй Маскве перетварыць эканамічна залежную Беларусь у фарпост супраць Захаду», — характарызуе пазіцыю Расіі *Frankfurter Rundschau*.

# Захаранка пакінуў Саюз

**Юрый Захаранка паведаміў аб сваім выхадзе з Саюза юрыстаў.**

У заяве на імя старшыні гэтай грамадскай арганізацыі, якая аб'ядноўвае юрыстаў краіны, Ю.Захаранка патлумачыў сваё рашэнне аб выхадзе са складу Саюза юрыстаў і яго кіраўнічых органаў тым, што СЮ, на яго думку, *«страціў маральнае права называцца юрыдычным»*, паколькі ніяк не адрэагаваў на беззаконне і гвалт, што чыняцца цяперашнім рэжымам з дапамогаю органаў МУС, пракуратуры і так званага правасуддзя.

**Б.П.**

# У Гомелі няма ні неграў, ні расізму

**У рэчышчы інтэграцыйных працэсаў рэдакцыя гомельскага тыднёвіка «Джэм» правяла апытанне жыхароў Гомеля на незвычайную тэму — расізм.**

На пытанне *«Ці падвяргаліся вы расавай дыскрымінацыі?»* 81% рэспандэнтаў адназначна адказалі: «Не!» Яшчэ 15% пазначылі адказ «бывае», яшчэ 2% адказалі «часта». Пры гэтым яны не ўдакладнілі, якія формы расавага ўціску ім давялося перажыць. А вось 1% гомельцаў настроеныя рашуча: *«Я сам магу падвергнуць расавай дыскрымінацыі каго-небудзь»*.

Гомельцы праявілі талерантнасць у пытаннях сям'і: 34% «нічога не маюць супраць» змяшаных шлюбаў, 54% ставяцца да гэтай праблемы «індыферэнтна» і толькі 12% — «насцярожана».

Каментуючы вынікі апытання, рэдакцыя зрабіла выснову, што як неграў, так і расізму ў Гомелі вельмі мала.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Што для іх святое?

**Сярод «вертыкалі» стала модным хапацца за святое.**

Напрыклад, кіраўнік Магілёўскага раёна В.Яленскі паведаміў на адной з нарадаў, што *«ідэйнай асновай новага маладзёжнага саюза будуць новыя канстытуцыі Беларусі, прынятыя на апошнім рэферэндуме, і хрысціянскія каштоўнасці»*. Згадзіцеся: раўняць фальшывы пленападаўскі рэферэндум і хрысціянскія каштоўнасці — гэта ўжо занадта.

**Іван ЗАСАДА**

# Звон назвалі «Марыя»

**У вёсцы Капцёўка Гродзенскага раёна ў касцёле ўпершыню зазваніў новы звон.**

Яго ўрачыста асвяціў гродзенскі біскуп А.Кашкевіч, даўшы звону імя «Марыя». Пры савецкай уладзе Капцёўскі касцёл быў зачынены. Набажэнствы ў ім аднавіліся некалькі гадоў таму, калі з Польшчы прыехаў ксёндз. Праўда, храм да канца яшчэ не адрамантаваны. Грошы на звон, без якога не можа існаваць касцёл, сабралі жыхары навакольных вёсак.

**А.А.**

## Мэру хацелі падкласці свінню

**Новы прадуктовы магазін адкрыў у Светлагорску калгас «Прагрэс».**

Першаму пакупніку, якім «выпадкова» аказаўся старшыня гарвыканкама Якабсон, паспрабавалі ўручыць прыз — смажанага парсюка. Аднак Якабсон праявіў высакароднасць: адмовіўся ад падарунка, перадаўшы яго першаму «простаму» пакупніку з народа.

Па словах старшыні калгаса «Прагрэс» В.Папругі, гандаль без пасярэднікаў — вельмі выгадная справа. У калгасе ўжо ёсць дзве фірмовыя крамы, тавараабарот якіх складае амаль 11 млрд. рублёў у год.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Бярозавага соку не будзе

**Сёлета Калінкавіцкі лясгас вымушаны адмовіцца ад нарыхтоўкі бярозавага соку, бо не хоча больш працаваць задарма.**

Штогод лясгас нарыхтоўваў дзесяткі тон соку-сырцу, але перапрацоўшчыкі — калгас «Брылёва», Калінкавіцкі вытворчы камбінат ды Ельскі кансервавы завод — з 1995 года не плоцяць за атрыманую сыравіну.

**У.В.**

## Ударылі кірмашом па беспрацоўі

**Гомельскі Цэнтр занятасці насельніцтва правёў «Кірмаш вакансій».**

Усе жадаючыя змаглі атрымаць неабходную інфармацыю пра становішча на рынку працы горада, вобласці і краіны ў цэлым. У выніку 2,5 тысячы беспрацоўных, зарэгістраваных у Цэнтры занятасці, знайшлі сабе новыя працоўныя месцы.

**У.В.**

## Напад на інкасатараў

**У мінулую пятніцу ў Гродне адбыўся буйны рабунак. Скрадзена 1 млрд. 172 млн. рублёў.**

Два інкасатары забралі грошы ў пункце растаможвання легкавых аўтамабіляў. На вуліцы на іх напаў рабаўнік, узброены аўтаматам, аднаму з інкасатараў ён прастрэліў руку. Злачынца забраў грошы, сеў у іхнюю машыну і пад пагрозамі прымусіў кіроўцу ехаць. Праз некалькі соцень метраў выштурхнуў шафёра з аўтамабіля. Потым злодзей пакінуў інкасатарскую машыну і знік. З выгляду ён меў 25-30 гадоў.

«Прыорбанк», куды павінны былі паступіць грошы з пункта растаможвання, абяцае грашовае ўзнагароджанне за дапамогу следству.

**А.А.**

# Беларусь в роли дохлого тигра

Судя по подсчитанным официальной статистикой результатам промышленного производства за первые два месяца 1997 года, Беларусь можно отнести к числу стран с наиболее высоким уровнем экономического роста. Большинство этих стран расположено в Юго-Восточной Азии, и их называют «тиграми». Однако методы достижения роста ВВП, применяемые в Беларуси, мягко говоря, отличаются от «тигровых» и при дальнейшем использовании могут просто ликвидировать либо отдать в чужие руки белорусские предприятия.

### Фантастические «достижения»

За январь-февраль рост белорусского ВВП составил ни много ни мало 10% в сравнении с аналогичным периодом предыдущего года. Причем данное увеличение произошло как за счет роста в промышленном секторе, производство в котором возросло на 12,3%, так и в сельском хозяйстве, где производство продукции выросло на 5,5%.

Региональными кудесниками стали Брестская и Гродненская области, где был отмечен наибольший прирост производства — 24 и 21,5% соответственно. Среди отраслей лидерами стали легкая промышленность (+35,9%) и промышленность строительных материалов (+32,1%).

С одной стороны, цифры и показатели не могут не радовать: есть еще порох в пороховницах. Однако столь прекрасные показатели производства были достигнуты в первую очередь за счет резкого ухудшения финансового состояния предприятий.

### Старые рецепты новых чудес

Прежде всего, произведенная продукция осела на складах выпустивших ее предприятий. Так, например, в январе запасы готовой продукции в сравнении с декабрем подскочили на 10%, а в феврале темпы роста запасов выросли еще и составили 11% в сравнении с январем. Даже несмотря на строгие ограничения по запасам продукции на складах, устанавливаемых властями, руководители предприятий не смогли предотвратить процесс их роста. И уж тем более они оказались бессильными перед увеличением кредиторской и дебиторской задолженности.

Система государственного управления нашими предприятиями такова, что от руководителей требуют выполнения определенных показателей — и не более. Необходимость соблюдения нормативов по складским запасам вместе с исполнением президентских приказов о приросте производства приводит к росту долгов. С одной стороны, на не слишком качественную, но и не слишком дорогую продукцию белорусских предприятий спрос есть — в основном в России. Однако, с другой стороны, большая часть этого спроса неплатежеспособна — т.е. российские предприятия не могут заплатить по причине отсутствия денег. В свою очередь, белорусские предприятия, не получив денег за отгруженную продукцию, — надо же как-то от нее избавляться, чтобы не выросли складские запасы! — не могут оплатить поставки сырья, комплектующих и т.п. В результате задолженность предприятий постоянно растет. Так, дебиторская задолженность (то, что должны предприятию) выросла с 1 января по 1 февраля 1997 года на 8,8% и составила 78,9 трлн. рублей, кредиторская задолженность (долг предприятия перед кем-либо) на 7,7% и вплотную приблизилась к 100-триллионной отметке. Разница между ними составила 20,4 трлн. рублей. Это как раз те долги, которые съедают остатки оборотных средств, или активов, предприятий.

### Русские придут?

Рост кредиторской задолженности увеличивает опасность покупки белорусских предприятий за гроши российским капиталом — учитывая подчиненное положение Беларуси в отношениях с Россией, где и находится большинство кредиторов. Рано или поздно они жестко потребуют отдать им во владение собственность их должников — белорусских предприятий. Практически создается основа для легального поглощения и скупки всей белорусской промышленности.

Рассчитаться же с долгами у белорусских предприятий вряд ли будет возможность. В начале 1997 года количество убыточных предприятий резко взросло. Так. если в декабре 1996 года их число составляло 19,1% от общего количества, то в январе 1997 г. — уже 31,5%. В промышленности удельный вес убыточных предприятий составил 25,6% от общего их числа. Предприятия забыли о прибыли, занимаясь ростом объемов производства. Так, в январе рентабельность в промышленности в целом сократилась до 6,4% (для сравнения: в ноябре-декабре 1996 года она составляла 10,4-10,5%).

Стремление к выполнению заложенных в президентских указах показателей роста ВВП создает впечатление либо полной бессмысленности, либо хитро спланированной акции по будущей распродаже белорусской экономики. Иначе зачем необходим рост ВВП, если при этом падает уровень жизни населения, предприятия увеличивают свои долги, а прибыльность производства постоянно падает?

**Алесь САДОВСКИЙ**

*НЕТРЫ*

# Карысныя выкапні — толькі на паперы

*У бліжэйшай перспектыве Беларусі не ўдасца наладзіць уласную вытворчасць фосфарных угнаенняў*

У некаторых дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Беларусі з'явілася інфармацыя, што ў Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці нібыта знойдзеныя вялікія запасы фасфарытаў, што дасць магчымасць арганізаваць вытворчасць фосфарных угнаенняў у Беларусі. Аднак галоўны геолаг па цвёрдых карысных выкапнях ВА "Беларусьгеалогія" Пётр Хоміч паведаміў, што ніякай сенсацыі няма.

Па ягоных словах, запасы фасфарытаў у Мсціслаўскім раёне былі знойдзеныя яшчэ каля 20 гадоў таму, аднак утрыманне ў іх фосфарнага ангідрыду вельмі нізкае. З гэтай прычыны такія радовішчы з'яўляюцца нерэнтабельнымі для распрацоўкі. Аб нейкіх новых быццам бы разведаных у раёне Мсціслава запасах фасфарытаў галоўнаму геолагу ВА "Беларусьгеалогія" нічога не вядома.

У заключэнне сп. Хоміч падкрэсліў, што сёння шмат хто "выдае жаданае за сапраўднае", аднак рэальна ад гэтага запасы карысных выкапняў у краіне не павялічацца.

*БелаПАН*






*ПРОБЛЕМА*

# Безопасный вирус?

*Говорят, между лейкозами у животных и людей нет прямой связи. И тем не менее...*

**Белорусские ветеринары, недавно побывавшие в Голландии, стыдливо опустили глаза, узнав, что в этой стране начисто отсутствует лейкоз у крупного рогатого скота. Стыдиться, право, было от чего.**

На Витебщине, например, еще 5–6 лет назад до 30% общественного стада коров было заражено вирусом лейкоза — тяжелого и опасного заболевания кроветворной системы. Отсутствие эффективных методов диагностики приводило к тому, что больные животные находились вместе со здоровыми, подвергая их риску заражения. Сейчас уже нет сомнения, что вирус лейкоза при определенных условиях может передаваться от одного животного к другому.

Естественно, встает вопрос: а от животного к человеку? Здесь специалисты делают паузу и разводят руками. Подтверждениями таких сомнений наука пока не располагает, но настороженность существует. На той же Витебщине за 3 последних года втрое (!) увеличилось количество людей, заболевших лейкозом. Втрое! Очевидно, сказывается ухудшение общей экономической и экологической обстановки. Возможно, что между лейкозами у животных и людей действительно нет прямой связи. И тем не менее...

Сегодня известно, что при температуре +70 °С вирус лейкоза погибает в течение нескольких секунд, что и делается на молокозаводах при пастеризации молока. И все же меня, как потребителя, это не слишком убеждает и обнадеживает. Я бы, например, хотел питаться молоком и мясом, начисто лишенным всякого маркера страшного заболевания. Мне неприятно сознавать, что молоко прошло обработку, а потому не опасно для здоровья. Я предпочел бы, к примеру, потреблять молоко исключительно от здоровых коров. Может, кто-то желает это оспорить? Кормить людей мясом и молоком от зараженных коров (пусть даже это и безопасно), с человеческой точки зрения, просто безнравственно, если не сказать — преступно.

В 1996 году Витебской областной ветеринарной лабораторией выявлено более 1,5 тысячи коров с гематологическими проявлениями заболевания. А на мясокомбинатах обнаружены 62 туши с явными признаками болезни кроветворной системы. Ура, это значительно меньше, чем выявлялось раньше! Но почему-то такая радость не наполняет гордостью наши патриотические чувства. Этим летом на полях области будет пастись еще 30 тысяч больных животных, если не больше.

Встает вопрос: как же освободиться сегодня от лейкоза в животноводстве? (Думаю, читатель уже понял, что подобная картина не только на Витебщине, где, как утверждают специалисты, не самая худшая обстановка.) Беларусь идет по пути постепенного оздоровления общественного стада. Есть, говорят, программа, которая к 2000 году позволит, в основном, очистить фермы от вируса лейкоза. Но так ли это на самом деле?

При сегодняшнем уровне культуры производства (в животноводстве в том числе), полуголодном пайке скотины и общей убогости села едва ли в недалеком будущем мы получим чистую продукцию. Ведь даже на крестьянских подворьях сегодня находится около 5 тысяч коров, зараженных вирусом лейкоза. Почему? Это особый разговор.

Специалисты рассказали, что в конце 80-х годов, когда на фермах области проводилось отделение «чистых» от «нечистых» животных, доярки поднимали прямо-таки бунты. Выбраковка коров нарушала их привычное представление о надоях, а, значит, и о заработках, и они ничего другого не хотели знать и понимать. На крестьянских подворьях происходит то же самое. Где уж тут вести разговор о политическом самосознании! Зомбирование таких людей — просто детская игра для теперешней власти. Она имеет дело с теми, кто порой просто лишен инстинкта самосохранения.

Есть еще один аспект, который вытекает из болезненного состояния нашего общественного стада. Беларусь долгое время считалась мясным цехом России. Знали ли россияне о здоровье нашей скотины, когда старательно пережевывали вкусную белорусскую колбаску?

**Геннадий ЦАРЕНКО**

Олег ПАВЛОВ

# Наш ли дом – Россия?

## *Субъективный взгляд на проблемы возможного объединения*

Увы, Господь создал наш мир слишком уж несовершенным: что бы с нами ни происходило — обязательно имеет свою темную сторону. И было бы неразумным делать вид, что ее не существует. В более чем возможном слиянии (объединении, присоединении, вхождении, аншлюсе — кому как нравится) Беларуси с Россией немало привлекательных сторон, о которых без устали трубят многочисленные президентские СМИ. А что, если взглянуть на «изнанку» этого процесса?

### Территориальная целостность

Все властители Российской империи поддавались воздействию своего народа, который после веков унижений победил Орду, но при этом принял от нее своеобразную «историческую эстафету», заключающуюся в губительной тяге к подчинению себе чужих народов и территорий. Пусть даже ценой невероятных жертв. Россияне восторженно прощали любые зверства тех царей, при которых была достигнута какая-нибудь победа в захватнической войне. Победи Горбачев в Афганистане или Ельцин в Чечне — и отношение к ним было бы совсем другим (на эту же схему, кстати, рассчитывает и белорусский президент). А собственная отсталая жизнь воспринимается как нечто второстепенное. Судите сами: недавняя гибель десятков тысяч (!) соотечественников в Чечне политическая элита России воспринимала куда равнодушнее, чем спасительный мир. А главное, ради чего приносились невероятные жертвы (причем, в основном мирного населения), — чтобы пример Чечни не получил развития и при этом не пострадала главная «священная корова» — **территориальная целостность.**

Этот геополитический термин давно стал истинной целью существования государства российского. Ведь если исходить из принципов мировой справедливости, то почему бы не продать спорные островки задыхающейся от перенаселения Японии? Нет, Россия предпочитает жить по принципу: ни себе ни людям. Если мерить ситуацию принципами целесообразности, то островки следует продать, чтобы обеспечить своим людям хотя бы минимум достойного существования. Куда там, даже нищие пенсионеры готовы вымереть как мамонты, но обязательно в гигантской стране. Россия как бы продолжает жить во времена расцвета Золотой Орды. Меняя лишь методы, но не принципы давно устаревшей азиатской системы выживания нации. Россия всегда готова сама платить дань, лишь бы поддерживать имидж нью-орды. Помните, как достаточно было любому отсталому, беспринципному вождю в далекой Африке заявить о дружбе и социалистической ориентации, как СССР осыпал его дождем отобранных у своего населения долларов? Наверное, это несчастье русского народа. Заболевание, при котором его кожа обязательно должна быть покрытой коростой возмущения угнетаемых народов.

### Интеграция или неоколониализм?

Бесконечное «сближение» наших пока еще независимых стран напоминает не разумный общественно-политический процесс, а нескончаемый животный половой акт слона и мухи. Акт, в котором не может быть взаимного оргазма. Скорее всего получится с одной стороны — разочарование, с другой — изнасилование.

В запале своей масштабной, дорогостоящей пропагандистской компании горе-интеграторы часто делают тенденциозные ссылки на опыт объединенной Европы. А почему бы им в качестве примера не обратится к опыту геополитически сопоставимой с нашей страной независимой Финляндии? Благодаря благодушному настроению В.Ленина, это северное государство когда-то сумело оторваться от Российской империи и самостоятельно добиться несопоставимого с бывшей метрополией уровня жизни населения. Представьте себе на минуточку, что было бы с финским народом, будь он до нашего времени в «братской семье народов».

Но не менее интересен другой факт. После развала СССР в Финляндии оживились «реваншисты», захотевшие всерьез поставить вопрос о возвращении исконно финских земель, незаконно аннексированных Советским Союзом в результате кровопролитной захватнической войны 1939 года. Мудрые северяне прежде всего подсчитали, сколько будет стоить доведение гипотетически возвращенных им территорий до среднефинского уровня. А затем широко объявили, во что это обойдется каждому налогоплательщику. В результате общественное мнение не поддержало идей борьбы за историческую справедливость. Интересно, наши интеграционные операции кто-нибудь просчитывает?

На мой взгляд, Финляндия — убедительнейший пример трепетного, продуманного отношения к межгосударственным контактам. Мы же упиваемся пустозвонством о «братстве» и исторической целесообразности. Не задумываясь, что мы нужны России лишь как средство для реализации «инстинкта самодовольства». Чтобы, как откровенно признаются А.Любимов и Ю.Лужков, им не было тесно в маленьких рамках и без того гигантской страны.

### Хотят ли русские войны?

Если вспомнить знаменитую песню на стихи Е.Евтушенко, то из нее так и не понятно: «Хотят ли русские войны?». Цинично?! А не еще ли более цинично громогласно вещать о праве на часть чужой территории? А не цинично ли называть ее — «исконно русской». Кто может это доказать? Ведь если исходить из библейского учения о возникновении человечества, то вся Земля — исконно еврейская. А если руководствоваться теорией Ч.Дарвина, то — исконно обезьянья. Никогда не поверю, что россияне не понимают: попытки задним числом переписать историю чреваты колоссальными жертвами. Но все это меркнет перед инстинктом «самоувеличения».

А в чем смысл противостояния расширяющемуся *NATO*, в котором плечом к плечу стали представители едва ли не всего политического спектра (уникальный случай)? На бытовом уровне это выглядит как желание жильцов из квартиры «икс» не дать дружить жильцам из квартир «игрек» и «зет». Правда, аналогичная политическая ассоциация выглядит не столь глупой, когда понимаешь, что расширение *NATO* если и не исключает, то предельно затрудняет задачу России — «вернуть» холопов в Империю. Это то, с чем она не может согласиться даже с учетом далекой перспективы. Но ведь даже дураку понятно — захоти передовые страны, составляющие блок *NATO*, захватить Россию, они бы сделали это, не дожидаясь ее военного усиления. То есть, несколько лет тому назад.

### Кто без кого не сможет обойтись?

Что меня действительно раздражает в моих земляках, так это постоянное нытье (другого слова не подберу) о неспособности самостоятельного существования. Мол НИЧЕГО (!) у нас нет — ни нефти, ни газа, ни угля, ни стали... Но на самом деле главное, чего нам не хватает, — это трезвого расчета и чувства самоуважения. Ведь в мире существует целый ряд стран, которые, имея куда более скудные природные потенции, живут намного лучше нас (например, Япония, Финляндия). Но зато еще больше государств, которые, имея преимущество в запасах полезных ископаемых, не сделали жизнь своего народа лучше нашей (например, Ирак, Албания, Иран). Все зависит от политической воли в проведении экономических преобразований.

В отличие от белорусов, россияне никогда не говорят о том, что не смогут прожить без своих экс-колоний. А зря. Факты свидетельствуют об обратном. И дело прежде всего в людях. Российская глубинка все последние годы почти повсеместно деградировала. Массовое пьянство, низкий уровень школьного образования, невероятная, но воспринимающаяся как нечто естественное антисанитария — лишь некоторые из социальных язв, поразивших Россию в значительно большей степени, чем западные и закавказские республики СССР. Достаточно было переехать мифическую границу БССР, чтобы в Смоленской или Псковской области увидеть непролазную грязь и запущенные приусадебные участки. А разве развал «великой Империи» не начался в российской глубинке — после того, как власти ввели экономические границы? Поездки из области в Москву или другие более обеспеченные города стали настолько массовым делом, что уже в разгар «расцвета застоя» стали активно вводить карточки и «продажи по пропискe». Разве это единая страна? Разве Россия вынудила Беларусь ввести в оборот собственные деньзнаки? Разве во всех этих грехах виноват «беловежский сговор»?

Вспоминаю, как, приехав служить в армии в Читинскую область, долго не мог найти в магазине какую-нибудь кастрюльку, чтобы готовить завтрак. Ничего похожего на нее, кроме ночного горшка, нигде не продавалось. Так и не решившись варить в нем, я попросил выслать кастрюлю из Минска. За 6.000 км. Мелочь? А смертельные разборки между военнослужащими разных республик, составлявшие основу пресловутой «дедовщины»?

Великая страна? А спросите любого из офицеров, служивших в более-менее приличных подразделениях Советской Армии, представляют ли они службу без белорусских, прибалтийских и украинских сержантов и специалистов? Когда показывают солдат-бедолаг в Чечне, те напоминают стаю без вожаков.

Нечто подобное происходило во всех проявлениях жизни. В Москву забирали талантливых, а на замену присылали надежных. Даже сегодня список ведущих российских политиков в значительной мере состоит из выходцев недавних республик-колоний. Та же самая ситуация в науке, культуре, искусстве. Не менее половины российских эстрадных «звезд» — «легионеры» из Украины (Н.Королева, Т.Овсиенко, В.Козаченко, В.Меладзе, «Академия», И.Кобзон, Я.Евдокимов...) и Беларуси (А. Свиридова, И.Корнелюк, Б.Моисеев...). Еще более разительная ситуация в спорте, в котором Россия нагло стала правопреемницей СССР. Начисто забыв о главном спортивном принципе: побеждает сильнейший. И на стадионе, а не в кабинете. Мелочь? Нет, подтверждение народной мудрости: «Наглость — второе счастье».

Так что российская нефть (добываемая не без вложений сил экс-республик) — лишь небольшая плата за «мозги». Что, кстати, в Москве отчетливо понимают и всерьез боятся потерять благотворную для них ситуацию в случае экономического усиления экс-республик.

### Всякая ли помощь – благо?

У вымывания национальной элиты есть и другая, не менее серьезная сторона — интервенция серости. Для примера обращусь к ситуации, которая возникла в белорусском кинематографе в 80-х годах. Однажды, увидев список работников студии «Летопись» с их паспортными данными, обратил внимание, что среди трех десятков режиссеров — только четыре белоруса. Абсолютное большинство — приезжие, получившие в Минске квартиры и работу за счет жителей Беларуси. Я не националист и не принципиальный противник «легионеров». Но с учетом, что, во-первых, те должны быть сильнее, талантливее местных конкурентов и, во-вторых, они должны понимать, что приехали в страну, где имеются свои традиции и культура. Куда там: даже в период расцвета интереса к документальному кинематографу «Летопись» продолжала штамповать профессионально безликую продукцию. О горении сердца и вспышках таланта речи не шло. Но поразило другое. Никто из «легионеров» так и не смог «обойти» «затесавшихся» местных режиссеров, таких как В.Дашук, С.Лукьянчиков, В.Цеслюк и некоторых других.

Ладно еще, когда приглашались выпускники единственного в СССР специализированного вуза — ВГИКа. Целыми группами приходили и находили приют наиболее бездарные (как показало время) выпускники московского института культуры (при наличии своего) и других подобных заведений. Аналогичная ситуация складывалась не только в кинематографе. В результате искусственно взращена «пятая колона», которая в массе своей сама не знает, чего хочет, и лишь инстинктивно борется за выживание. Они не россияне. Они не слишком торопятся на «историческую родину», понимая, что там никому не нужны. Как и то, что лучшее в их жизни произошло в связи с переездом в колониальную Беларусь. Разномастные «легионеры» если и хотят чего-либо, то что бы стало как раньше. А если невозможно — то быть поближе к власти. К той, что реально имеется, а не к той, которая гипотетически более достойная.

### О церкви

Когда-то я был поражен тем, что в Париже в нашем веке не был возведен ни один собор. Не потому, что денег мало, а потому, что их можно потратить более разумно (например, на реставрацию). Россия же в очередной раз, как в омут с головой, бросается в православие. Православие, в свою очередь, как птенец к маме, с воодушевлением и преданностью в глазах бросается навстречу власти. Поддерживая власть во всех без исключения начинаниях — в том числе и наносящих откровенный вред пастве. За что с церковью расплачиваются пышным возведением соборов и приглашением на государственные мероприятия. При этом православных иерархов даже не волнует будущая «посещаемость» церквей, иначе она вела бы себя более порядочно — не вытalкивая другие религии взашей и не вырывая подачки.

### Вечный сосед

Соседей, как и родителей, — не выбираешь, особенно когда беден. Тому, кто боится с приобретением независимости потерять российские рынки и полезные ископаемые, я привожу пример с универмагом, который отказался бы обслуживать посетителей, приходящих за покупками... в очках. Ведь Россия продает кому-то нефть не потому, что покупатели славяне, а потому, что они платят деньги.

Поэтому нет ничего более глупого, чем рассуждать о том, что независимость — путь к изоляции. Не секрет, что деловые люди образцового (по заявлению наших лидеров) гитлеровского режима продолжали торговые операции с американскими коллегами уже в ходе Второй мировой войны. А ведь мы не собираемся воевать. Так какие же есть основания для разрыва честных, взаимовыгодных связей с кем бы то ни было?

Еще более нелепыми кажутся досужие разговоры о том, что последствием независимости станет разрыв родственных связей и невозможность посетить Россию. Будет экономический подъем — сможем съездить и в Мельбурн, и в Москву, и в Сингапур. Как граждане любой демократической страны. А в противном случае нас снова ждет единственный вариант поездок — «ближайшая соседка», причем за очень большие деньги относительно нищенской зарплаты...

### «В Россию можно только верить»

Чрезвычайно точно подметил поэт. А как быть, если голой, ни на чем не основанной веры — недостаточно? Я желаю всяческого добра той земле, на которой родились моя мама и отец моей жены, а также многие и многие уважаемые мною люди. Но при этом я отчетливо понимаю — Россия скорее продолжит распадаться, чем совершит экономический рывок. Как можно верить стране, которая постоянно твердит о своей особой антизападной исторической миссии, а сама изо всех своих владык более всего боготворит Петра I? Того самого Петра, который, вырывая бороды и пиная бояр под зад, изо всех сил тянул Россию на Запад, мостя путь костями своих соотечественников, превращенных в рабов. Как можно верить стране, которую запросто и надолго подчинил, унизил, размазал малограмотный грузин? Тот самый, на которого многие россияне молятся до сих пор. Где гарантия, что этого больше не произойдет, — особенно с учетом того, что все (!) наследователи поста Сталина для всех сограждан стали объектами «черных» анекдотов, но никак не уважаемыми руководителями? Как можно верить стране, которая в конце XX века ведет кровавые, затяжные, бессмысленные (т.е. даже без надежды поживиться за чужой счет) колониальные войны? Как можно верить стране, в которой короткие экономические и демократические рывки (НЭП, «оттепель», «перестройка») обязательно сменялись продолжительными «застоями»? Как можно верить стране, в которой создается совершенное оружие, но безнадежно отсталые предметы потребления. Как можно верить стране, которая преступно скрывала от своего народа сам факт случившейся ядерной катастрофы? Как можно верить стране, которая постоянно «чванливо кичится» своей духовностью, а туалеты повсеместно загажены намного больше, чем в бездуховной Европе? Как можно верить стране, которая постоянно издевалась (если не убивала) над теми людьми, которыми впоследствии громогласно гордилась? Как можно верить стране, власти которой «приватизировали» плоды всенародной Великой победы в целях обмана и издевательств над своим же народом?.. Этот список можно продолжать очень долго.

Я отнюдь не русофоб и не активист БНФ. Просто трезвый анализ показывает: войти сегодня в Россию равноценно тому, как оказаться в «хрущевке» во время землетрясения.

Чего бы я хотел? Во-первых, увидеть европейский уровень бытия в своей родной стране, что абсолютно невозможно при российских размахе, менталитете и амбициях. Я не хочу туда, куда зовут наши интеграторы и их приспешники — на борт нового «Титаника» с названьем гордым «Россия».

*P.S. Статья написана в рамках несостоявшегося всенародного обсуждения судьбоносного вопроса — Автор.*

СВАБОДА
2 красавіка 1997 г., № 35

Уладзімір АРЛОЎ, Генадзь САГАНОВІЧ

# Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

***З сённяшняга нумара СВАБОДА пачынае друкаваць новую кнігу «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», напісаную двума папулярнымі аўтарамі — пісьменнікам Уладзіміра Арловым і гісторыкам Генадзем Сагановічам. Гэтая праца, якая ў поўным аб'ёме пакуль нідзе не публікавалася, складаецца з чатырох раздзелаў: «Старажытныя беларускія княствы», «Вялікае Княства Літоўскае», «Беларусь у Рэчы Паспалітай», «Беларусь у Расейскай імперыі». Кожны раздзел суправаджаецца храналагічнай табліцай (гл. ніжэй), у якой даты беларускай мінуўшчыны падаюцца на фоне асноўных падзеяў сусветнай гісторыі.***

***Рэдакцыя дзякуе аўтарам за права першай публікацыі. «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» чытайце ў СВАБОДЗЕ кожны аўторак.***

## Старажытныя беларускія княствы

Пісьмовая гісторыя Беларусі сягае IX стагоддзя. Першым з беларускіх гарадоў у летапісах згадваецца Полацак — цэнтр княжання крывічоў, а першай летапіснай асобай — князь Рагвалод, які прыйшоў «з-за мора» валадарыць у Полацку. Уласныя княжанні (раннія формы дзяржаўнасці) тады ўжо мелі і іншыя плямёны, што насялялі Беларусь, — дрыгавічы і радзімічы. Цэнтрам дрыгавічоў быў Тураў, у якім сядзеў Тур, а радзімічаў — Гомель.

Прыкладна ў 980 годзе наўгародскі князь Уладзімір захапіў Полацак і забіў Рагвалода з сынамі, а яго дачку Рагнеду гвалтам пашлюбіў. Так, праз гвалт, Полацкае княства было ўлучана ў склад Кіеўскай дзяржавы. Але ненадоўга. Кіеўская Русь як дзяржава заставалася штучным, ваенна-адміністацыйным аб'яднаннем, што абыймала дзесяткі этнічных супольнасцяў. Уладаранне Кіева не змяніла самабытнага жыцця падпарадкаваных земляў. На справе яно зводзілася да збору даніны і абавязку ўдзельнічаць у ваенных паходах кіеўскіх князёў.

Полацак першым стаў супернічаць з Кіевам і Ноўгарадам ды неўзабаве пазбавіўся залежнасці ад Кіева. З пачаткам княжання Рагвалодавага ўнука Ізяслава ў Полацку сцвердзілася свая дынастыя. Уласную палітыку стаў праводзіць ужо Брачыслаў, а ягоны сын Усяслаў займеў славу неўтаймоўнага змагара за непадлегласць свайго краю. Гэта ён заслужыў найбольшыя сімпатыі аўтара «Слова пра паход Ігараў». Пры Ўсяславе Полаччына зажыла ўласным жыццём. Узвядзеннем Сафійскага храма ён падкрэсліў, што Полацак роўны Кіеву і Ноўгараду. У 1067 годзе, бароначы незалежнасць зямлі, палачане прынялі крывавую сечу на Нямізе, калі ваяваць іх край прыйшло кааліцыйнае войска Рурыкавічаў. Беларускі горад на Дзвіне заставаўся няскораным супернікам Кіева. Упартае проціборства на стагоддзі прадвызначыла іх стасункі. «І ад таго меч уздымаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў», — занатаваў летапісец.

Полацкае княства, якое па праве лічыцца першай беларускай дзяржавай, ахапляла тады ці не палову абшару цяперашняй Рэспублікі Беларусь. Па Дзвіне яго ўладанні сягалі Балтыйскага мора. Гэта было вялікае і моцнае па еўрапейскіх мерках гаспадарства, якое апярэджвала ў развіцці іншыя ўсходнеславянскія землі. Важную ролю ў грамадска-палітычным жыцці тут грала веча — агульны сход палачанаў. Вечавыя традыцыі Полацка, такія ж даўнія, як і наўгародскія, датрывалі да XVI стагоддзя.

Нават непазбежна распадаючыся, Кіеўская імперыя імкнулася трымаць у падпарадкаванні іншыя землі. У барацьбе з Полацкам Кіеў не шкадаваў сілаў і сродкаў. Пяць князёў Усяславічаў былі зняволеныя і высланыя ў Візантыю. Але са смерцю Манамахавага ўнука Мсціслава (1132) пачаўся поўны развал гэтага дзяржаўнага кангламерату. Даўно адасобленыя воласці сталі хутка ператварацца ў самастойныя княствы. І палачане адразу ж аднавілі незалежнасць, пасадзіўшы сабе князем аднаго з унукаў славутага Ўсяслава. Аднак, як і іншыя княствы, Полацкая зямля ўжо дасягнула перыяду раздробленасці і міжусобіцаў. Толькі ў канцы XII стагоддзя, аслабленая, яна спрабавала кансалідавацца. «Рагвалодавы ўнукі» бралі ўдзел у супольных паходах, а на галоўным полацкім пасадзе каля 30 гадоў нязменна сядзеў князь Уладзімір (Валодша).

Па-рознаму складваліся дачыненні іншых беларускіх земляў з Кіевам. Тураўшчына, таксама падпарадкаваная Ўладзімірам у 980-х гадах, доўгі час была ў Кіеўскай зямлі, але так і не злілася з ёю. Нарэшце ў 1158 годзе ў змаганні з Кіевам Тураў адстаяў самастойнасць, і тут таксама ўсталявалася свая княская дынастыя. Смаленск ішоў да самастойнасці іншым шляхам. Ён ніколі не ваяваў з Кіевам. Смаленшчына выдзелілася ў асобную зямлю ў 1120-х гадах. Яна не ведала ўнутраных разладаў і хутка стала наймацнейшым княствам Русі.

Пры канцы XII стагоддзя, калі аслабленыя княствы Беларусі амаль зніклі са старонак летапісаў, у вусці Дзвіны з'явіліся нямецкія місіянеры, а потым і рыцарскі ордэн. Хоць у дачыненнях немцаў з Полацкам пераважала зацікаўленасць ва ўзаемавыгадным гаспадарчым супрацоўніцтве, заходнія пазіцыі старажытнабеларускага княства істотна пагоршыліся. З іншага боку, на тэрыторыі Расіі і Украіны ў 1237-41 гадах абрынулася нашэсце мангола-татарскіх наезнікаў. Гэтыя землі (за выключэннем Наўгародскай і Пскоўскай) зрабіліся ўладаннямі татарскага хана. Беларусь жа засталася практычна не закранутай Батыем. Аднак трагічны лёс суседніх княстваў стаў урокам. Палітычнае становішча аздробленых земляў Беларусі паставіла на парадак дня жыццёва важнае пытанне — кансалідацыю і аб'яднанне з суседзямі, каб бараніцца ад агульных ворагаў.

**Г.С.**

## 862. Першыя летапісныя звесткі пра Полацак

Сёння на беразе Палаты, недалёка ад Чырвонага моста, стаіць сціплая стэла з надпісам: «Гарадзішча. Помнік археалогіі IX стагоддзя». Вось тут некалі і вырас яшчэ цалкам драўляны Полацак, упершыню ўспомнены ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 годам у сувязі з дзяльбою гарадоў ноўгарадскім князем Рурыкам. Ад гэтай даты гісторыкі і вядуць адлік узросту «бацькі беларускіх гарадоў».

Тым сама годам, дарэчы, пазначаны і першы запіс старажытнага летапісца пра Кіеў, што, як вядома, у 1987-м афіцыйна адзначыў сваё 1500-годдзе. Не меншыя падставы святкаваць такі паважны юбілей мелі і палачане, бо на тэрыторыі старажытнага горада археолагамі знойдзена кераміка, зробленая не пазней за V стагоддзе. Прыкладна да таго часу некаторыя гісторыкі адносяць і згадку ісландскай сагі пра ўзяцце Полацка гунамі.

Паўтара тысячагоддзя таму, у часы вялікага перасялення народаў, на заселеныя балтамі землі прыйшло з захаду і рассялілася на вышнявінах Дзвіны, Нёмана, Дняпра і Волгі магутнае славянскае племя крывічоў. Крывічы, што аселі вакол ракі Палаты, атрымалі найменне палачанаў. Яны і заснавалі названы па рацэ горад.

Гэтыя мясціны былі вядомыя яшчэ антычным грэкам і рымлянам. Шэраг вучоных трымаюцца думкі, што вядомая з твораў Гамера і ягонага вучня Гесіёда рака Эрыдан, куды ўпаў у сваёй вогненнай калясніцы нізрынуты з неба міфічны Фаэтон, — гэта сучасная Дзвіна. Яна мела і іншыя старажытныя назовы: Рубон або Рудон, Дуна, Дзіна або Віна. У Палаты таксама было старадаўнае найменне — Турунт.

У 865 годзе на беразі Палаты прыйшло кіеўскае войска князёў Аскольда і Дзіра, што, як паведамляе Ніканаўскі летапіс, «ваявалі палачанаў і шмат зла ўчынілі», а ў выніку на нейкі час зрабілі горад залежным ад Кіева.

Тагачасны Полацак — гэта абнесены драўлянымі сценамі, абведзены валам ды ровам градзядзінец плошчаю ўсяго адзін гектар, а таксама неўмацаваны вакольны горад, дзе жылі рамеснікі. Полацак меў тысяч пяць жыхароў — трохі меней за Кіеў і Ноўгарад і болей за ўсялякі іншы ўсходнеславянскі горад. Асноўнымі заняткамі гараджанаў было земляробства і рамяство, а таксама паляванне, рыбарства і бортніцтва.

У 907, 911, 941 і 944 гадах полацкія дружыны, даручыўшы лёс Пяруну, выходзілі адсюль у паходы на далёкі Царгорад-Канстанцінопаль, сталіцу Візантыйскае імперыі. Паганскі бог вайны спрыяў продкам. Полацак мы знаходзім у пераліку гарадоў, якім Царгорад плаціў даніну. Сілу галоўнай крывіцкай цвярдыні ведалі і паўночныя суседзі. У скандынаўскіх сагах ён згадваецца дзесяткі разоў пад назовам Палцеск'я — ад старажытных усходнеславянскіх найменняў Полацеск, Полцеск, Полацьск. Аўтару адной сагі нават прымроіліся вакол горада каменныя сцены.

Летапіс называе Полацак сярод гарадоў, дзе сядзелі князі, якія прызнавалі старэйшым між сябе кіеўскага Алега. Разам з тым улада далёкага Кіева ніколі не была тут вельмі трывалая. Горад хацеў жыць незалежна і будаваць сваю дзяржаву. Добрыя ўмовы гэтаму стварала выгаднае геаграфічнае становішча на шляхах, што звязвалі Арабскі халіфат і Хазарыю са Скандынавіяй і славянскім светам. Аб'яднанню прыдзвінскіх земляў спрыяла агульнасць прыродных умоваў (а значыць, і ладу жыцця) і, вядома, этнічная адметнасць тутэйшых жыхароў, у чыіх жылах змяшалася балцкая і славянская кроў.

У другой палове X стагоддзя ў Полацку кіраваў незалежны ні ад Кіева, ні ад Ноўгарада князь Рагвалод. Відаць, ён быў сынам полацкай княгіні Прадславы, згаданай у дамове, якую ў 945 годзе падпісалі Візантыя і кіеўскі князь Ігар.

Рагвалод — першы полацкі князь, імя якога вядомае з летапісаў. Можна спрачацца, прыйшоў полацкі валадар з-за мора, як сцвярджаюць летапісцы, або быў крывічом. Можна спрачацца, славянскае ці скандынаўскае ён меў імя. Найважней іншае — тое, што, гаворачы словамі беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча, Рагвалод «першы ўбачыў і па-сапраўднаму ацаніў вялікія магчымасці Полацкай зямлі як асобнай дзяржавы са сваімі мэтамі і інтарэсамі, супрацьлеглымі мэтам і інтарэсам самога Кіева».

Іначай кажучы, у Рагвалодавы часы пачала існаванне першая беларуская дзяржава — Полацкае княства.

**У. А.**

## 980 (?) «Крывавае вяселле» Уладзіміра з Рагнедай

На трывалы хаўрус з маладой Полацкай дзяржаваю мог найперш разлічваць той, хто возьме за жонку дачку полацкага ўладара Рагвалода Рагнеду.

Спачатку Полацак прымаў сватоў ад кіеўскага князя Яраполка. Рагвалоду найлепей было б, каб Кіеў ды Ноўгарад варагавалі, а ён тым часам пашыраў межы княства ды выходзіў на волакі, што злучалі Дзвіну з Ловаццю, дазваляючы трымаць у руках важную частку гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі». Але ў такім разе Полацак мог апынуцца паміж двух агнёў. Князь мусіў выбіраць, і аддаў сваю прыхільнасць мацнейшаму, на ягоную думку, Кіеву.

Па бацькавай волі дванаццацігадовая Рагнеда (у такім вяку дзяўчынка ўжо лічылася тады нявестаю) дала Яраполкавым сватам згоду і пачала рыхтавацца да вяселля. І тут неспадзеўкі заявіліся сваты з Ноўгарада, ад Уладзіміра Святаславіча. Вось што апавядае пра гэта Лаўрэнцеўскі летапіс: «Калі Рагвалод трымаў уладу і княжыў у Полацку, Уладзімір быў яшчэ дзіцём і паганінам і жыў у Ноўгарадзе. І меў ён дзядзьку Дабрыню, храбрага ваяводу... І паслаў той да Рагвалода людзей, і прасіў яго аддаць дачку за Уладзіміра. Запытаўся ў дачкі Рагвалод:

*(Працяг на стар. 6)*

*Князевіч Ізяслаў заступаецца за Рагнеду пасля яе замаху на Уладзіміра. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу.*



### *Беларусь*

| | |
|---|---|
| 862 | ***Першыя летапісныя звесткі пра Полацак.*** |
| 980 (?) | ***«Крывавае вяселле» Уладзіміра з Рагнедай.*** |
| 992 | ***Утварэнне Полацкай епархіі.*** |
| 1021 | ***Бітва полацкага князя Брачыслава з Яраславам Мудрым на Судоме.*** |
| 1029 | ***Нарадзіўся князь Усяслаў Чарадзей.*** |
| 3 сакавіка 1067 | ***Бітва на Нямізе. Першая згадка ў летапісе пра Менск.*** |
| Каля 1110 | ***Нарадзілася Еўфрасіння Полацкая, асветніца і нябесная заступніца Беларусі.*** |
| 1129 | ***Выгнанне полацкіх князёў у Візантыю.*** |
| Каля 1130 | ***Нарадзіўся славуты пісьменнік і прапаведнік Кірыла Тураўскі,*** |
| 1158 | ***Заваёва незалежнасці Тураўскім княствам.*** |
| 1161 | ***Ювелір Лазар Богша стварыў крыж Еўфрасінні Полацкай.*** |
| Каля 1186 | ***Створана «Слова пра паход Ігаравы».*** |
| 1216 | ***Смерць полацкага князя Валодшы.*** |

### *Сусветная гісторыя*

| | |
|---|---|
| 863 | ***З'яўленне Кірылы і Мяфода ў Маравіі.*** |
| 983 | ***Паўстанне палабскіх славянаў супроць немцаў.*** |
| 1048 | ***Нарадзіўся славуты персідскі паэт і філосаф Амар Хаям.*** |
| 1066 | ***Заваёва Англіі нарманамі.*** |
| 1095 | ***Рымскі папа Урбан II абвясціў крыжовы паход на Ерусалім.*** |
| 1113 | ***Створана «Хроніка палякаў», вядомая як «Хроніка» Ананіма Гала.*** |
| 1122 | ***Вормскае пагадненне паміж імператарам Генрыхам IV і рымскім папам.*** |
| 1146 | ***Палітычнае раздрабленне Польшчы.*** |
| 1171 | ***Ваеннае ўварванне ў Ірландыю і ўсталяванне там ангельскага панавання.*** |
| 1174 | ***Забойства ўладзіміра-суздальскага князя Андрэя Багалюбскага.*** |
| 1204 | ***Захоп і спустошэнне Канстантынопаля крыжакамі.*** |
| 1217 | ***Сербія стала каралеўствам.*** |
| 1222–30 | ***Стварэнне «Саксонскага Люстэрка» — зводу феадальных законаў Нямеччыны.*** |
| 1225 | ***Нарадзіўся славуты філосаф і багаслоў Тамаш Аквінскі.*** |

(Пачатак на стар. 5)

«Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуці рабыніча, а Яраполка хачу».

«Не хачу разуці» — тагачасная форма адмаўлення сватам. Існаваў звычай, што маладая жонка перад першай шлюбнаю ноччу здымала з мужавых ног абутак. Аднак тут не проста адмова, але і знявага, бо полацкая князёўна гучна абвясціла: жаніх — сын рабыні, а такі бязродны ёй не трэба.

Далей летапісы кажуць пра гнеў Уладзіміра і ягонага дзядзькі, што сабралі з ноўгарадцаў, пскавічоў, чудзі, весі і меры, а таксама смаленскіх ды ізборскіх крывічоў вялізнае войска і рушылі на Полацак, дзе ўжо збіраліся выпраўляць Рагнеду ў Кіеў. З Уладзімірам ішла дружына варагаў. Князь паабяцаў ім усіх жанчын і грыўню срэбра з кожнага захопленага двара. Трэба зазначыць, што летапісцы часта рэдагавалі гістарычныя падзеі — рабілі іх больш рамантычнымі, набліжалі да літаратурнага твора. Напраўду галоўная прычына нападу на Полацак — не адмова сватам, а паход палачанаў на ноўгарадскія воласці з мэтаю забраць волакі.

Недзе на падыходзе да горада варожую раць сустрэла Рагвалодава дружына. Уладзімір напаў раптоўна, і полацкі валадар не паспеў сабраць усе свае сілы. Нашы продкі былі разбітыя, князь уцёк у Полацак, ды не здолеў ні ўратавацца сам, ні выратаваць сям'і. «І паланілі Рагвалода, — піша летапісец, — і жонку ягоную і дачку. І зневажаў Дабрыня яго, і прыгадаў Рагнедзе, як назвала князя рабынічам, і загадаў Уладзіміру быць з ёю перад бацькам і мацерай. Пасля ж Уладзімір забіў бацьку яе, а самую ўзяў за жонку. І назвалі Рагнеду Гарыславаю». Іншыя летапісцы дадаюць, што на вачах у князёўны правадыр чужынцаў пазбавіў жыцця яшчэ двух яе братоў і маці, вынішчыў увесь род.

Драма на берагах Палаты адбылася блізу 980 года, а праз колькі месяцаў Уладзімір Святаславіч ужо забіў Яраполка і зрабіўся вялікім князем кіеўскім. Знаную палачанку ён пасяліў непаводдаль сталіцы ў вёсачцы, што потым людзі назавуць па імені Рагнедзінай дачкі — Прадславіна. Новы кіеўскі князь быў паганінам, а гэтая рэлігія дазваляла мнагажэнства. Апрача полацкай князёўны ён меў яшчэ сем ці шэсць жонак і трымаў дзеля штодзённых уцехаў васемсот наложніц.

Рагнеда нарадзіла ад Уладзіміра сыноў Ізяслава, Яраслава (яго потым назавуць Мудрым), Мсціслава і дачок Прадславу і Праміславу. Князь жыў у Кіеве наездамі, у Прадславіна заяўляўся зусім рэдка.

У Рагнедзінай душы спялілася прага помсты. «Аднаго разу, — сведчыць летапіс, — калі Уладзімір прыйшоў да яе і заснуў, яна наважылася зарэзаць яго. І надарылася яму ў тую хвілю прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: «Ты бацьку майго забіў і зямлю ягоную паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцем». І загадаў ёй прыбрацца па-царску, як перад шлюбам, і сесці ў хораме на белым ложы, а ён прыйдзе і заб'е яе. Яна па словах мужавых і зрабіла. І дала ў рукі сыну свайму Ізяславу аголены меч і навучыла: «Як зойдзе твой бацька, скажы яму: не думай, што ты адзін тут». І ўчыніў так Ізяслаў. Уладзімір жа прамовіў: «А хто ведаў, што ты тут». І апусціў ён меч і, склікаўшы баяраў, расказаў ім ўсё. Яны ж парадзілі: «Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а аднаві яе бацькаўшчыну і дай ёй з сынам сваім». І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў горад гэты Ізяслаўлем. І з таго часу ўзнімаюць меч Рагвалодавы ўнукі супраць унукаў Яраслававых».

Рагнеду з сынам чакала невядомае, небяспечнае ад мужавай няміласці жыццё на крывіцка-дрыгавіцкім памежжы, дзе стаяла сярод лясоў маленькае драўлянае Заслаўе. Уладзімір жа неўзабаве абвянчаўся з грэцкаю прынцэсаю Ганнай і ўзяўся прыводзіць да веры ў Хрыста падуладныя землі. Летапісцы паведамляюць, быццам перад сваім вянчаннем князь прапанаваў Рагнедзе выйсці замуж за аднаго з сваіх баяраў, ды ганарлівая княгіня вырашыла лепей прысвяціць сябе Хрысту і стала першаю на ўсходнеславянскіх землях манашкаю, прыняўшы імя Анастасіі. Магло быць і іначай; Рагнеду зрабілі Хрыстовай нявестаю, не пытаючы яе згоды, а малога Ізяслава павезлі ў Полацак.

Ізяслаў перажыў маці адно на колькі месяцаў. Такое супадзенне дае падставы лічыць, што Уладзімір мог атруціць іх, каб не дазволіць Полацку ўзмацніцца, а старэйшаму сыну — прэтэндаваць калі-небудзь на кіеўскі княжы пасад. Даты ствараюць загадкавы ланцужок: 1000 год — памірае Рагнеда, 1001 — Ізяслаў, 1003 — малалетні Усяслаў Ізяславіч. «Бысть же сий князь, — паведамляе пра ІзяславаНіканаўскі летапіс, — тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и прилежаще прочитанию божественных писаний, и отвращаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпив». Ізяслаў — першы з усходнеславянскіх князёў, каго летапісцы называюць кніжнікам. Менавіта ён увёў у Полацку пісьменства і навучанне грамаце. Пячатка з ягоным імем лічыцца сама даўным (пасля пасудзіны з надпісам «Горoушна», знойдзенай пад Смаленскам) помнікам беларускага пісьменства і другім па часе ва ўсіх усходніх славянаў. Пра дзяржаўную дзейнасць Рагнедзінага сына нічога невядома. Ён застаецца ў гісторыі як першы беларускі асветнік і як князь, што аднавіў у старажытнай крывіцкай сталіцы полацкую дынастыю. Пачынаючы з яго, усе нашчадкі Рагвалода нязменна называлі сябе Рагвалодавічамі, а не Рурыкавічамі, як астатнія «рускія» князі.

**У. А.**

# 992. Утварэнне Полацкай епархіі

У 1992-м наша краіна ўрачыста — святочнымі літургіямі, заснаваннем новых храмаў, навуковымі канферэнцыямі — адзначала 1000-годдзе хрысціянства ў Беларусі. За пункт адліку быў прыняты ўдакладнены гісторыкамі год стварэння Полацкай епархіі.

Як вядома, кіеўскі князь Уладзімір стаў хрысціянінам у 988 годзе. Старажытны стод Пяруна, як звычайнае бервяно, паплыў да дняпроўскіх парогаў, а раку Уладзімір Чырвонае Сонейка зрабіў велізарнай купеляй. Сагнаным на бераг кіянам князь кінуў пагрозліва: «Хто не са мною, той супраць мяне». Баючыся суровай кары за непаслушэнства, паганцы заходзілі па шыю ў ваду і вярталіся ўжо хрысціянамі. Ноўгарадцаў, як сведчаць летапісы, кіеўскія ваяводы Дабрыня і Пуцята хрысцілі «агнём і мячом». Прыход новае веры ў беларускі Тураў таксама стаўся падзеяю драматычнай: нездарма там дагэтуль жыве паданне пра каменныя крыжы, што прыплылі з Кіева і афарбавалі Прыпяць крывёю.

А як прыняла Хрыстовую веру Полацкая зямля?

Афіцыйныя гісторыкі ніколі нічога пэўнага не казалі — маўляў, гэта частка Кіеўскай Русі, таму ўсё было тут, як у сталіцы ці, у горшым разе, як у Ноўгарадзе. Аднак звестак пра тое, як хрысцілася наша княства, мы не знойдзем ні ў водным з вядомых сёння летапісаў. Няхай Полацкі летапіс не захаваўся, але, калі б кіеўскія дружыннікі ўчынілі на берагах Дзвіны крывавы гвалт, гэта абавязкова адзначылі б іншыя летапісцы.

Ва Уладзіміра Святаславіча ўжо не было дастатковай сілы, каб хрысціць палачанаў прымусова. Княства няўхільна адраджала сваю самастойнасць. Яго валадары — нашчадкі Рагнеды — не мелі патрэбы сцвярджаць сваю ўладу пераводам у хрысціянства адразу ўсіх жыхароў, як зрабіў князь Уладзімір у Ноўгарадзе.

Паганства несла ў сабе шмат светлага, такога, ад чаго чалавеку нялёгка адмовіцца. Полацкія князі, разумеючы гэта, тым не менш не хацелі бачыць сваю зямлю паганскаю выспаю сярод хрысціянскай Эўропы. Яны цвяроза ацэньвалі перавагі, якія давала дзяржаве і яе народу новая вера. Таму Полацак прыняў яе і спрыяў мірнаму пашырэнню Хрыстовага вучэння на ўсім крывіцкім абшары.

Сёй-той з нашых продкаў мог надзець крыж яшчэ у час паходаў на хрысціянскую Візантыю. Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што хрысціянінам быў князь Рагвалод. Магчыма, у Полацку ўзнік і першы ва ўсходніх славянаў манастыр. Дапусціць гэта дазваляе скандынаўская «Сага пра хрышчэнне», дзе апавядаецца пра падзеі X стагоддзя. Герой сагі, прылічаны пасля смерці да святых Торвальд Вандроўнік, хрысціў Ісляндыю, адкуль выправіўся ў Ерусалім. Заслужыўшы вялікую пашану канстанцінопальскага патрыярха, паломнік вяртаўся на радзіму праз усходнеславянскія землі. У «Русіі» ён заснаваў манастыр Іаана Хрысціцеля, у дарозе сканаў і быў пахаваны «на высокай гары каля царквы святога Іаана непадалёку Полацка». Высокую гару знайсці ў Полацку няцяжка. Быў тут і згаданы ў гістарычных дакументах старажытны манастыр у гонар Іаана Хрысціцеля.

Няма ніякіх доказаў, што Полацкая зямля прымала хрост ад Кіева. Затое ёсць багата іншых сведчанняў. Аўтар «Аповесці мінулых часоў» піша, што ў 1008 годзе ў Полацку «перанесены святыя ў святую Багародзіцу». Першыя кіеўскія святыя Барыс і Глеб з'явяцца адно праз колькі гадоў, а перанясуць іх мошчы ў царкву, як сведчыць той жа летапісец Нестар, у 1072 годзе. Хто ж тады тыя таямнічыя полацкія святыя? Самае верагоднае, што пакутніца Рагнеда-Анастасія і яе сын Ізяслаў. Канстанцінопальскі патрыярх мог дазволіць кананізаваць мясцовых святых праз сваю зацікаўленасць у хрысціянізацыі Полацкай зямлі паводле ўсходняга абраду. Княства ж, безумоўна, хацела мець сваіх святых дзеля ўмацавання незалежнасці.


*Святыя Канстанцін і Алена.
Каменны абразок XII стагоддзя з Полацка.*

Іпацеўскі і Лаўрэнцеўскі летапісы называюць датай стварэння Полацкай епархіі 1105 год, але гэта ніяк не можа адпавядаць сапраўднасці. У крывіцкай сталіцы ўжо паўстагоддзя стаяў Сафійскі сабор, а такі храм не маглі пабудаваць, калі б у Полацку не было свайго епіскапа.

Новая вера прыйшла ў Беларусь непасрэдна з Візантыі. Здарылася гэта яшчэ да афіцыйнага падзелу хрысціянства на заходнюю і ўсходнюю плыні, які адбыўся ў 1054 годзе. Хрысціўшыся паводле грэцкага абраду, продкі не адчувалі варожасці да вернікаў-лацінцаў. Нават у XII стагоддзі тут працягвалі пашырацца жыццяпісы рымскіх святых. «Родам рымлянін» быў адзін з першых беларускіх святых Меркуры Смаленскі. Мы не ведаем на тагачасных беларускіх землях ніякай скіраванай супраць заходняга хрысціянства літаратуры. Гэта яшчэ раз сведчыць пра ўласцівы продкам шляхотны дух талерантнасці, традыцыі якой пазней будуць захоўвацца і развівацца ў Вялікім Княстве Літоўскім.

**У. А.**

# 1021. Бітва полацкага князя Брачыслава з Яраславам Мудрым на Судоме

Ён застаўся сіратою ў малых гадах. Бацька паспеў пасадзіць хлопчыка на каня, даў патрымацца за меч, паслухаў, як, водзячы пальцам па пергамене, князевіч расчытвае кніжныя радкі. Далей яго выхаваннем займаўся нехта з мудрых полацкіх баяраў. Брачыслаў застаўся апошнім жывым Рагвалодавічам. Палачане бераглі малалетняга князя, як вока, і глядзелі на яго з вялікімі спадзяваннямі.

У Кіеве яшчэ сядзеў ненавідны Уладзімір. Рагвалодаў забойца мусіў аднавіць Полацкае княства, але забраў у яго волакі на гандлёвых шляхах. Ключы ад іх — Віцебск і Усвят — перайшлі пад уладу Ноўгарада, куды плыло цяпер багатае мыта з праезджых купцоў. Полацкія «мужы моцныя» марылі павярнуць гэты залаты ручай да сябе, аб'яднаць крыўскія землі і прырасціць да іх дрыгавіцкія.

Узмужнеўшы і ўвабраўшыся ў сілу, князь спраўдзіў надзеі землякоў. Як тое адбывалася, апавядаюць нам летапісы і «Сага пра Эймунда».

Памёр Уладзімір Чырвонае Сонейка, успыхнулі крывавыя усобіцы. Пераможцам з іх выйшаў князь Яраслаў, празваны Мудрым. Малады полацкі валадар у змаганне за дзедаву спадчыну не лез, рыхтаваўся да іншага. А тут як быццам само неба паспрыяла палачанам: у горад прыйшла з Кіева варажская дружына Эймунда. Яраслаў не заплаціў ёй за службу, і пакрыўджаныя варагі выбралі сабе іншага гаспадара — Брачыслава, што было прызнаннем ягонае сілы.

Эймунд прывёз крывіцкаму князю важную навіну: яго кіеўскі дзядзька рыхтуецца да паходу ў Прыдзвінне. Полацак вырашыў не шкадаваць варагам грошай. Тым болей што Эймундава папярэджанне хутка спраўдзілася: Яраслаў прыслаў ганцоў, патрабуючы памежныя з ягонымі ўладаннямі полацкія гарады. Правадыр варагаў за бяседным сталом сказаў Брачыславу: «Падобна, уладар, што будзе бойка з хіжым ваўком. Саступім цяпер — захоча ўрваць яшчэ болей».

Параіўшыся з баярамі, Брачыслаў Ізяславіч вырашыў не чакаць нападу, а самому ўдарыць на спадчыннае Яраслава ўладанне — Ноўгарад. У 1021 годзе палачане быццам з-пад зямлі выраслі пад магутнымі ноўгарадскімі сценамі і ўзялі горад прыступам. Сярэднявечны польскі гісторык Ян Длугаш піша, што ўслед за сталіцаю Брачыслаў заваладаў усім суседнім княствам. У захопленых гарадах ён паставіў намеснікаў і з багатым палонам вырушыў дадому. Часам даводзіцца чытаць, што такім чынам Полацак адпомсціў за Рагвалода і Рагнеду. Не трэба блытаць помсту з дзяржаўнай палітыкай. Палачане не помсцілі, а імкнуліся далучыць Ноўгарадскую зямлю, каб больш паспяхова змагацца з Кіевам.

На сёмы дзень вяртання з паходу крывіцкае войска ўбачыла перад сабою баявыя харугвы Яраслававай дружыны. Сеча адбылася на рацэ Судоме, і, калі верыць летапісам, разбіты Брачыслаў збег адтуль у родны горад. Аднак дзіўная гэта была перамога, бо кіеўскі князь не толькі не пайшоў ваяваць Полацкую зямлю, а яшчэ і аддаў пляменніку Віцебск і Усвят — менавіта тыя гарады, якіх Полацку не хапала для моцных пазіцый на шляху «з варагаў у грэкі». Зноў застаецца шкадаваць, што загінуў Полацкі летапіс: ён мог сказаць пра тую бітву праўду.

«Сага пра Эймунда» падае іншую версію падзей на Судоме. Бітвы нібыта наагул не было. Кіяне з палачанамі стаялі насупраць адзін аднаго сем дзён, і Яраслаў чакаў, пакуль ваяўнічы пляменнік прышле паслоў з паклонам. Брачыслаў рваўся ў бой, аднак хітрамудры Эймунд прапанаваў яму таксама вырашыць спрэчку без крыві: выкрасці Яраслававу жонку, каб міру папрасілі самі кіяне. Варагава задума прыйшлася Брачыславу даспадобы. Эймунд з яшчэ адным супляменнікам зрабілі ў лесе за баявым кіеўскім станам засаду і ўрэшце захапілі княгіню ў палон, што і дапамагло атрымаць Віцебск і Усвят.

Як бы ні разгортваліся падзеі ў сапраўднасці, Яраслаў Мудры прызнаў самастойнасць Полацка і ваяваць з Рагвалодавічамі болей не хацеў. Пасля сустрэчы на Судоме полацкі і кіеўскі князі дамовіліся быць «братанічамі». Брачыслаў назваў дзядзьку старэйшым, але абодва мелі на кіеўскую зямлю роўныя правы, і таму адзін сядзеў у Полацку, другі — у Ноўгарадзе, а Кіевам кіравалі праз намеснікаў. Летапісы кажуць пра існаванне там «Ярославля» і «Брячиславля» двароў. Гэта азначала аднаўленне поўнае незалежнасці Полацкай дзяржавы.

«Будзь са мною за адно», — сказаў дзядзька пляменніку, змацоўваючы дамову, «і ваявалі Брачыслаў з Яраславам разам усе дні жыцця свайго». Як яны ваявалі разам, нічога не вядома. Пасля 1021 года Брачыславава дружына найчасцей выпраўлялася на захад. Пра паспяховасць гэтых паходаў кажуць сёння ўтвораныя ад імя полацкага валадара геаграфічныя назовы. На возеры Дрывяты стаіць горад Браслаў, што ў летапісах зваўся па імені заснавальніка — Брачыслаўль. За пару дзесяткаў кіламетраў ад Краславы, на беларуска-латышскім памежжы, ёсць на возеры Сівер вёска Браслаў са старажытным гарадзішчам. Таксама на тэрыторыі Латвіі, у Абрэнскім раёне, людзі жывуць яшчэ ў адным Браславе. Яшчэ адно паселішча з такім назовам існуе трохі на поўнач ад Воршы, якая разам з Копысем і часткаю Прыдняпроўя трапіла пад уладу Полацка зноўтакі за часам Брачыслава Ізяславіча, што сядзеў на полацкім пасадзе з 1001 да сваёй смерці ў 1044 годзе.

**У. А.**

